# КРЫВІНКА

ЧЭРВЕНЬ
№7 (271)
2021 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## НА ШЛЮЗЕ – ЦІШЫНЯ

**Шлюз на Крывінцы ў Старых Ранчыцах адстаяў зачыненым усю зіму. Яго не паламала ледаходам, ён не пацярпеў ад паводкі. Але напачатку траўня сюды завіталі работнікі Бачэйкаўскай ПМС, якія абслугоўваюць шлюз. Вялізны кран выдраў затвор шлюза з плаціны і пагрузіў на грузавік. Работнікі сабралі рыбу, якая заблыталася ў траве, і адбылі разам са шлюзам у невядомым кірунку.**

З пачаткам спякотных дней на шлюз у Старых Ранчыцах пачалі заязджаць тыя, хто ведаў, як файна можна было адпачыць тут раней. Але іх чакала глыбокае разачараванне: вады ў Крывінцы вераб'ю па калена. Пра тое, каб тут нырцануць, як гэта было раней, можна толькі марыць. Наогул у Бешанковіцкім раёне абсталявана толькі адно месца для купання – сажалкі блізу раённай бальніцы. Зразумела, што сюды не паедзе чалавек не толькі з Астроўна ці Паўазер'я, але і з найбліжэйшых вёсак, якія стаяць на рэчках.

Мясцовы люд ходзіць купацца там, дзе жыве. І лагічна было б абсталяваць месцы для купання каля кожнага вадаёма. Вось такая задача павінна быць пастаўленай перад старшынямі сельскіх саветаў напярэдадні лета. Несумненна, што колькасць загінулых на вадзе пры такім падыходзе знізілася б у разы.

Даведка. Толькі за адзін трэці тыдзень чэрвеня ў Беларусі патанула 40 чалавек.

**Г.Станкевіч**

ДАРОЖНАЯ БЯСПЕКА

## РЭЙДЫ ПА ДАРОГАХ РАЁНА

**З пачатку года ў Бешанковіцкім раёне выяўлена 497 фактаў эксплуатацыі транспартных сродкаў, якія не прайшлі тэхагляд.**

У рамках дэкады «Дзяржтэхагляд», якая праходзіла з 13-га па 23-га траўня, супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі і УП «Белтэхагляд» правялі сумесныя рэйды на дарогах Бешанковіцкага раёна, выяўляючы аўтамабілі, якія не маюць дазволу на ўдзел у дарожным руху.

Па якім прынцыпе спыняюць аўтамабілі? - Асноўны паказчык - гэта знешні выгляд транспартнага сродку, - распавядае дзяржаўтаінспектар Аляксандр Зубец.- У зімовы час, напрыклад, карозію, вызначыць цяжэй, але цяпер гэта не цяжка. Неналежны стан аўтамабіля нярэдка становіцца прычынай ДТЗ. Да трагедыі могуць прывесці не толькі няспраўнасці, але і бруднае шкло, якое абмяжоўвае бачнасць, цьмянае святло запырсканых фар, зношаныя шыны ...

На жаль, некаторыя кіроўцы легкадумна ставяцца да праходжання тэхагляду, лічачы яго не больш чым фармальнасцю. Аднак далёка не ўсе аўтааматары ў стане самастойна выявіць тую ці іншую няспраўнасць, якая ў крытычнай сітуацыі можа стаць фатальнай, прычым не толькі для вадзіцеля, але і для тых, хто аказаўся побач.

Своечасовае праходжанне тэхагляду - неабходная мера, якая павышае бяспеку ўдзельнікаў дарожнага руху.

На працягу гадзіны да адказнасці за адсутнасць тэхагляду транспартнага сродку было прыцягнута чатыры кіроўцы. Усім ім вынесена папярэджанне, складзены адпаведныя пратаколы. Яшчэ траіх дзяржаўтаінспектар спыніў крыху пазней. За час правядзення рэйдавых мерапрыемстваў выяўлена 54 факты эксплуатацыі транспартных сродкаў, якія не прайшлі тэхагляд. З пачатку года такіх зарэгістравана 497.

З агульнай колькасці парушэнняў 23 былі здзейсненыя паўторна.

Аўтаўладальнікі, якія кіруюць транспартнымі сродкамі і своечасова не прайшлі тэхагляд, прыцягваюцца да адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры да 3 базавых велічынь.

Паўторнае парушэнне на працягу года пагражае штрафам да 5 базавых велічынь.

З 1-га сакавіка ў Беларусі ўступіў у дзеянне абноўлены КаАП. У ім, сярод іншага, прапісаны пакарання для аўтамабілістаў, зафіксаваных камерамі. Мяркуецца, што «лісты шчасця» будуць прыходзіць не толькі за перавышэнне хуткасці, але і за няправільную паркоўку, праезд на чырвоны сігнал святлафора і адсутнасць тэхагляду або страхоўкі.

Новым Кодэксам рассыланне лістоў прадугледжана, аднак у тэхнічным плане дадзеная працэдура яшчэ не ўкаранёна.

*(скарочана)*

**Алена Марозава**
**"Зара"**

## ПСАЛЬМ 136

### ПЛАЧ ВЫГНАНЬНІКАЎ ПА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

*Каля рэк вавілонскіх*
*мы сядзелі зьнямелыя.*
*Плакаў хтось,*
*прыгадаўшы радзіму далёкую.*
*І зьвінелі пад ветрам*
*струны арфаў нясьмелыя,*
*на іх грала туга*
*свой матыў адзінокасьці.*

*Прыгнятальнікам нашым*
*весялосьці хацелася,*
*пацьвяліць нашы раны,*
*якія крывавілі.*
*Загадалі сьпяваць нам,*
*ды сэрцу ня пелася –*
*мы радзіму згадалі*
*сваю зруйнаваную.*

*На чужынскай зямлі*
*песьняў музыка лішняя,*
*не ліецца яна,*
*калі сэрца ўпакорана.*
*Хай лепш да паднябеньня*
*язык ў роце прыліпне наш,*
*чым хтось з нас паспрабуе*
*песьні пець лютым ворагам.*

*О, адпомсці ім, Божа,*
*за грахі іх шматлікія,*
*як яны нашы хаты*
*разбуралі вякамі.*
*І, як з намі, так зь імі*
*хай паступіць бязьлітасна*
*той, хто іх немаўлятак*
*раструшчыць аб камень.*

**Пераклад Г.Станкевіча**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ПЕРАЙШЛА НА ЗВЫЧАЙНЫ РЭЖЫМ ПРАЦЫ

**За першыя тры тыдні чэрвеня ў Віцебскай вобласці намецілася зніжэнне ўзроўню захворвання каранавірусам прыкладна на 3%, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкама Людміла Кавалёва.**

Паступовая колькасць тых, хто паступае на стацыянарнае лячэнне пацыентаў з пацверджаным дыягназам COV-ID-19 у Віцебскай вобласці зніжаецца. Паступова цэнтральныя раённыя бальніцы вяртаюцца да звычайнага рэжыму працы.

На мінулым тыдні ў трох раёнах установы аховы здароўя вярнуліся да дакавіднага графіку - у Браслаўскім, Лепельскім, Чашніцкім (Новалукомскай ЦРБ).

На гэтым тыдні (трэці тыдзень чэрвеня) звычайны рэжым працы ўсталюецца ў Бешанковіцкай, Мёрскай і Ушацкай ЦРБ. Ва Ушачах цалкам сыдуць ад шпіталізацыі пацыентаў з COVID-19. У Віцебску акушэрска-гінекалагічны корпус бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі (БХМД), дзе раней размяшчалі тых, хто захварэў каранавірусам, таксама вяртаецца да ранейшага рэжыму працы", - распавяла Людміла Кавалёва. Яна дадала, што сёння яшчэ шпіталізуюць пацыентаў з COVID-19 у інфекцыйныя і перапрафіляваныя аддзяленні сямі ЦРБ (Верхнядзвінскай, Глыбоцкай, Гарадоцкай, Докшыцкай, Лёзненскай, Пастаўскай, Сенненскай), Віцебскую абласную інфекцыйную бальніцу, тэрапеўтычны корпус БСМП, Нефралагічны корпус абласной клінічнай бальніцы і абласны клінічны цэнтр пульманалогіі і фтызіятрыі.

Таксама ў вобласці працягваецца вакцынацыя медыцынскіх і педагагічных работнікаў, работнікаў устаноў сацабслугоўвання, грамадзян слабых катэгорыяў. Ужо каля 50 тыс. чалавек прышчэплены двума кампанентамі вакцыны ад COVID-19.

**Витебские Вести**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## НАРАДА НА ПРЫКЛАДЗЕ БЕЗГАСПАДАРЧАСЦІ

**На прыкладзе безгаспадарчасці гаспадарак Бешанковіцкага раёна — «Бешанковічы аграсэрвіс» і «Дразды - Агра» — у Віцебскім аблвыканкаме правялі нараду.**

Дэталёвы разбор недахопаў і парушэнняў зрабіў першы намеснік старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню аблвыканкама Уладзімір Машэраў.

Ён зрабіў гэта на прыкладзе гаспадарак «Іванск - Агра», «Праземле - Агра», «Кашчынскае», «Вядрэнскае - Агра» (Чашніцкі раён), «Бешанковічы аграсэрвіс», «Дразды - Агра», а таксама «Шумілінскі райаграсэрвіс», «Сіроцінскі», «Лаўжанскае», «Лежні», «Прыдзвінскі» і шэрагу іншых.

Галоўным чынам гаворка ішла аб захаванні тэхналагічнага рэгламенту, неналежнай якасці кармоў, ігнараванні ветэрынарна-санітарных патрабаванняў да жывёлагадоўчых памяшканняў, парушэннях тэхналогіі кармлення (непаўнавартасныя рацыёны, адсутнасць кармавых дабавак) і невыкананні вытворчага працэсу вырошчвання цялят.

Адначасова, выкарыстоўваючы магчымасці пляцоўкі аблвыканкама і шырокага прадстаўніцтва рэгіёнаў, прагаворваліся эфектыўныя рашэнні праблемных сітуацый, якія носяць найбольш масавы характар.

Напрыклад, аблсельгасхарч патрабуе цэнтралізаваць працу з маладняком у тых гаспадарках, дзе для гэтага адсутнічаюць магчымасці.

Для гэтага вызначаецца ферма ў добрым стане, дзе канцэнтруюцца цяляты адной або некалькіх гаспадарак, дзе можна сабраць найбольш падрыхтаваных і адказных спецыялістаў для абслугоўвання жывёл, растлумачыў Уладзімір Машэраў.

**Витебские Вести**

НАВУКА

# НАКОЛЬКІ НЕБЯСЬПЕЧНЫ «ДЭЛЬТА»-ВАРЫЯНТ КАРАНАВІРУСУ

**«Дэльта»-варыянт каранавірусу імкліва распаўсюджваецца па плянэце. Ці праўда, што гэты штам больш заразны і сьмяротны? Ці абараняюць ад яго вакцыны?**

**Адкуль ён узяўся**

«Дэльта»-варыянт каранавірусу B.1.617.2, раней вядомы як «індыйскі», упершыню быў знойдзены ў кастрычніку 2020 году ў індыйскім штаце Махараштра. З тых часоў мутаваны вірус шырока распаўсюдзіўся ня толькі па ўсёй краіне, але і па ўсім сьвеце. «Дэльта» выяўленая і ў Расеі – паводле маскоўскіх уладаў, 90% выпадкаў заражэньняў у Маскве выкліканыя менавіта гэтай разнавіднасьцю каранавірусу.

«Дэльта» мае адразу некалькі мутацыяў. Як менавіта яны функцыянуюць, пакуль недастат-кова вывучана. Аднак да гэтага моманту вядома, што гэтыя зьмены дазваляюць вірусу лягчэй укараняцца ў клеткі арганізма чалавека і пазьбягаць некаторых імунных рэакцыяў, расказала ў інтэрвію DW Дээпці Гурдасані, клінічны эпідэміёляг зь Лёнданскага ўнівэрсытэту каралевы Марыі.

Акрамя «дэльты», таксама існуе варыянт «дэльта-плюс» (AY.1). Ён яшчэ больш заразны і ўстойлівы да наяўных сёньня вакцынаў ад каранавірусу, кажа Гурдасані. Аднак, паводле дадзеных рэсурсу PANGO Lineages, «дэльта-плюс» пакуль не пасьпеў шырока распаўсюдзіцца.

**Наколькі варыянт «дэльта» пашыраны**

Паводле дадзеных СА3, варыянт «дэльта» знойдзены ў 80 краінах і працягвае імкліва распаўсюджвацца паўсім сьвеце. Больш за ўсё паведамленьняў пра заражэньні гэтай разнавіднасьцю каранавірусу паступае з Вялікай Брытаніі – да 22 чэрвеня там было выяўлена звыш 52 тысячы выпадкаў. За ёй ідуць Індыя, ЗША і Нямеччына.

Пакуль не ўдалося навукова пацьвердзіць, што за хвалю заражэньняў і сьмерцяў, якія фіксавалася вясной у Індыі, адказны менавіта варыянт «дэльта». Аднак фактам застаецца тое, што Індыя стала адной з самых пацярпелых ад пандэміі краінаў — там за ўвесь пэрыяд распаўсюду хваробы было зарэгістравана амаль 30 мільёнаў заражэньняў.

**Ці варыянт «дэльта» больш заразны**

Пакуль маецца ня так шмат дасьледаваньняў. Марыя Ван Керкговэ, галоўная экспэртка САЗ у рэагаваньні на COVID-19, напісала ў Twitter, што варыянт «дэльта» больш заразны, чым «альфа» і «дзікі», гэта значыць першапачатковы, тып каранавірусу.

Колькасьць новых заражэньняў у Вялікай Брытаніі таксама сьведчыць пра высокую заразнасьць гэтага штаму хваробы. У пэрыяд з 2 па 9 чэрвеня колькасьць інфікаваных павялічылася ў Вялікай Брытаніі на 30 тысяч чалавек.

Больш за 90% заражэньняў у Вялікай Брытаніі выкліканыя цяпер варыянтам «дэльта», сьведчаць дадзеныя Службы грамадзкай аховы здароўя краіны. Паводле іншага дасьледаваньня, у выпадку з «дэльтай» імавернасьць заразіцца ва ўласным доме ўзрастае на 64% у параўнаньні з «альфа»-варыянтам каранавірусу.

Гэта пацьвярджае і эпідэміёляг Гурдасані: «У Індыі мы вызначылі, што „дэльта"-варыянт распаўсюджваўся хутчэй, чым „альфа", які першапачаткова выявілі ў Вялікай Брытаніі. Гэта выклікае занепакоенасьць, таму што мы ведалі, што ўжо „альфа" больш заразная, чым першапачатковы тып каранавірусу». Паводле ацэнкі Гурдасані, імавернасьць заразіцца «дэльтай» у тры разы вышэйшая, чым тыпам каранавірусу, які не мутаваў.

**Наколькі сьмяротная мутацыя «дэльта»**

Пакуль мала навуковых зьвестак аб тым, ці сапраўды штам «дэльта» выклікае больш сьмерцяў, чым іншыя мутацыі каранавірусу. Але адно можна сказаць дакладна: у Вялікай Брытаніі ў выніку заражэньня варыянтам «дэльта» памерлі людзі, якія ўжо былі вакцынаваныя ад каранавірусу. Сем чалавек памерлі цягам 21 дня пасьля першай прышчэпкі, яшчэ 12 — на працягу прыкладна двух тыдняў пасьля другой.

У параўнаньні з варыянтам «альфа» заражэньне «дэльтай» часьцей прыводзіць да шпіталізацыі пацыентаў.

**Ці абараняюць ад «дэльты» вакцыны ад каранавірусу**

Паводле наяўных дадзеных, прэпараты BionTech / Pfizer і AstraZeneca абараняюць ад цяжкога працяканьня хваробы ў выпадку заражэньня «дэльта»-варыянтам. Але пры гэтым ахоўны эфэкт вакцын ніжэйшы, чым у выпадку з «альфай» ці першапачатковым тыпам каранавірусу.

Брытанскае дасьледаваньне прыйшло да высновы, што ў выпадку заражэньня «дэльтай» ужо пасьля вакцынацыі сымптомы могуць наогул не праявіцца. З BioNTech/Pfizer імавернасьць гэтага складае да 36% пасьля першай прышчэпкі і да 88% – пасьля другой. З AstraZeneca — да 30% пасьля першай дозы і да 67% — пасьля другой.

Гэтыя першыя высновы дасьледаваньняў дэманструюць, што варыянт «дэльта» значна больш устойлівы да вакцынаў у параўнаньні зь іншымі мутацыямі, аднак поўная вакцынацыя дае ад яго надзейную абарону.

**Якія сымптомы заражэньня «дэльтай»**

Паводле першых вынікаў зь Вялікай Брытаніі, сымптомы заражэньня «дэльтай» адрозьніваюцца ад выкліканых іншымі варыянтамі каранавірусу. Брытанцы, якія заразіліся «дэльтай», скардзіліся на галаўныя болі, пяршэньне ў горле, насмарк, тэмпэратуру і часам кашаль.

«У маладых людзей гэта можа быць падобным на моцную прастуду», — тлумачыць эпідэміёляг і аўтар дасьледаваньня Zoe Covid Symptom study Тым Спэктар. У выніку ёсьць рызыка, што хворыя ня надаюць сымптомам надта вялікага значэньня і працягнуць заражаць іншых. Таму пры пералічаных сымптомах варта зрабіць тэст на каранавірус і заставацца дома, раіць Спэктар.

**Як засьцерагчы сябе ад заражэньня «дэльта»-варыянтам**

Агульнавядомыя правілы — у тым ліку захаваньне дыстанцыі ў паўтара мэтра, выкарыстаньне масак, мыцьцё рук і рэгулярнае праветрываньне памяшканьняў — абараняюць ад усіх вядомых да цяперашняга моманту мутацыяў каранавірусу, у тым ліку і ад «дэльты», адказалі DW ў Інстытуце Робэрта Коха. Надзейную абарону дае вакцынацыя прэпаратамі Biontech/Pfizer і AstraZeneca, хоць у выпадку з «дэльтай» іх эфэктыўнасьць крыху зьніжаецца ў параўнаньні зь іншымі варыянтамі.

Акрамя таго, варта пазьбягаць падарожжаў у зоны, дзе распаўсюджваюцца новыя варыянты каранавірусу. Менавіта падарожжы спрыялі распаўсюду вірусу і яго разнавіднасьцяў на самым пачатку пандэміі.

**Радыё Свабода**

САНКЦЫІ

# ЯНЫ ТРАПІЛІ ПАД САНКЦЫІ

**Міхаіл Гуцэрыеў**

62-гадовы расейскі алігарх з'яўляецца старшынёй рады дырэктараў групы «Сафмар» і НК «Руснафта», агульны асабісты капітал ацэньваюць у $2 млрд. Сям'я Гуцэрыева цягам пяці гадоў займала першае месца ў спісе найбагацейшых кланаў у сучаснай Расеі і толькі летась апусцілася ў рэйтынгу Forbes на трэцяе месца.

Сяброўства Гуцэрыева і Лукашэнкі пачалося з 2000-х, калі алігарх стаў прэзідэнтам кампаніі «Слаўнафта» і заняўся будаўніцтвам аўтазаправак і нафтабазаў у Беларусі. Цёплыя стасункі Лукашэнкі і Гуцэрыева ніколі не хаваліся.

Дзякуючы Лукашэнку расейскі алігарх атрымаў на рэалізацыю буйны інвестыцыйны праект — будаўніцтва ў Любанскім раёне новага калійнага камбіната (Нежынскі горнаўзбагачальны камбінат).

«Ты адзін з нямногіх, хто атрымаў беларускія нетры», — сказаў у свой час Гуцэрыеву Лукашэнка.

Паводле неафіцыйных звестак, менавіта Гуцэрыеў разам з Віктарам Пракапеней угаварылі Лукашэнку падпісаць дэкрэт «Аб развіцці лічбавай эканомікі». Сын алігарха Саід Гуцэрыеў неўзабаве пасля гэтага стаў саўладальнікам першай крыптабіржы ў Беларусі. У 2020 годзе Саід таксама выкупіў беларускі «Парытэтбанк».

У якасці падзякі Гуцэрыеў рэгулярна аказваў Лукашэнка розныя паслугі і рабіў дарагія падарункі. Паводле СМІ, у 2013 годзе менавіта Гуцэрыеў падарыў Лукашэнку на дзень народзінаў адну з самых дарагіх машын на свеце — «Майбах» мадэлі 57/62, якая каштуе каля 500 тысяч долараў.

Расейскі алігарх пабудаваў вілу каля Радашковічаў, якую рэгулярна наведвае Лукашэнка, а таксама набыў прыкладна за 12 млн. еўра VIP-верталёт афармлены ў колерах дзяржаўнага сцяга Беларусі. Акрамя таго, ён арганізоўваў выступленне зорак расейскага шоу-бізнесу на канцэрце для Лукашэнкі. У 2020 годзе алігарх некалькі разоў фактычна выручаў Лукашэнку. У разгар нафтавай вайны з Расеяй кампаніі Гуцэрыева былі адзінымі пастаўшчыкамінафты на беларускія НПЗ. А ў жніўні алігарх арганізаваў"агітацыйны дэсант" — тэрміновае перакідванне ў Беларусі працаўнікоў расейскага тэлебачання, якія мусілі замяніць работнікаў БТ, якія звольніліся на знак пратэсту. Менавіта пасля прыбыцця расейцаў афіцыйная прапаганда набыла рэзка агрэсіўны, чалавеканенавісніцкі змест.

**Аляксей Алексін**

Аляксей Алексін лічыцца адным з найбольш набліжаных да сям'і Лукашэнкі алігархаў. Разам з Віктарам Лукашэнкам бізнесовец з'ўляецца на байкерскіх злётах, разам яны ляталі на прыватным самалёце ў ААЭ. Сам Алексін пачынаў сваю кар'еру на дзяржаўнай службе, працаваў у кампаніі «Белзнешгандальінвест», якая ўваходзіла ў склад Упраўлення справамі прэзідэнта.

Сёння бізнес Алексіна мае прывеліяваны статус у Беларусі. Гэтак у апошнія гады Алексін атрымаў ад дзяржавы выключныя правы ў сферы гандлю тытунём. У снежні 2017 года Лукашэнка дазволіў кампаніі алігарха «Энерго-Оіл» стварыць адзіную тавараправадную сетку ў тытунёвай сферы. Менавіта ў межах рэалізацыі гэтага праекту ў Беларусі з'явіліся кіёскі «Табакеркі» (агулам планавалася стварыць да 2,5 тысяч аб'ектаў).

Падчас пратэстаў 2020 года «Табакеркі» ўспрымаліся як адзін з сімвалаў рэжыму Лукашэнкі — людзі пакідалі на шапіках пратэставыя надпісы, а ў некаторых выпадках нават падпальвалі іх.

Дзеля тытунёвай вытворчасці Алексіна ўлады нават змянілі адміністратыўныя межы Менску. Са жніўня 2018 года «Энерга-Оіл» стала эксклюзіўным дыстрыбутарам прадукцыі Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман». Алігарху таксама дазволілі імпартаваць цыгарэты L&M, Parliament, Marlboro, хаця раней такое права мела толькі прадпрыемства «Беларусьгандаль» Упраўлення справамі прэзідэнта.

Акрамя таго, Алексін, разам з Зайцавым і Вараб'ём, з'яўляецца суўладальнікам кампаніі «Брэміна Груп», якая займаецца развіццём прамыслова-лагістычнага комплексу «Брэміна-Ворша». Паводле СМІ, Алексін можа быць звязаны з шэрагам незаконных бізнес-схемаў — у прыватнасці,з кантрабандай цыгарэтаў. У Літве Алексін кантраляваў некалькіх фірмаў, якія, як высветліла супольнае журналісцкае расследаванне «Белсата», Siena.lt і OCCRP, мелі яўныя прыкметы адмывання грошай. Напрыклад, у свой час у Вільні Алексін заснаваў кампанію ў пазразбураным будынку, а затым купіў праз яе кватэру, у якой зарэгістраваў яшчэ дзве фірмы. Кампаніі, якія нават не мелі супрацоўнікаў, менш чым за два гады правялі праз свае рахункі 46 мільёнаў еўра.

Чакалася, што Алексін трапіць пад санкцыі яшчэ ў канцы 2020 года, але ў апошні момант ён быў выкраслены са спісу — па неафіцыйнай інфармацыі, на гэтым настаяла Латвія, дзе алігарх у тым ліку вядзе бізнес. Але Алексін усё роўна падрыхтаваўся да еўрапейскіх санкцыяў і ў студзені 2021 года перапісаў свае ключавыя актывы («Энерго-Оіл» і «Белтрансгаз») на сыноў — Віталя і Дзмітрыя.

**Сергей Цяцерын**

Сяргей Цяцерын — старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі, чалавек, які ўваходзіць у бліжняе кола Лукашэнкі. Яго можна часта ўбачыць разам з Лукашэнкам на нефармальных мерапрыемствах.

У маладосці Цяцерын прафесійна займаўся спортам, быў чэмпіёнам БССР па тэнісу, выступаў на міжнародных спаборніцтвах. Потым перайшоў на трэнерскую працу.

Пазнаёміліся Цяцерын і Лукашэнка яшчэ ў 90-е, разам гулялі ў тэніс і ў хакей. У розныя часы Цяцерын быў намеснікам міністра спорту і турызму, займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэту.

У 2012 годзе пасля сыходу з НАК заняўся бізнесам: ён заснавальнік і дырэктар холдынгу «БелГлобалСтарт». Кампаніі холдынгу займаюцца продажам мэблі і прадметаў інтэр'еру, валодаюць сеткай кінабараў, пастаўляе на беларускі рынак алкаголь і некаторыя прадукты харчавання.

Як і іншыя набліжаныя да Лукашэнкі бізнесоўцы, Цяцерын рэгулярна атрымлівае розныя прэферэнцыі для свайго бізнесу. Напрыклад, у 2014 годзе падчас Чэмпіяната свету па хакею падкантрольная Цяцерыну кампанія была прызначана афіцыйным аператарам грамадскага харчавання. У 2015 годзе кампанія Цяцерына ўвайшла ў спіс спецыяльных імпартэраў алкагольнай прадукцыі.

Таксама Цяцерын мае актывы ў медыябізнесу — ён саўладальнік кампаніі «ТНТ-International», якая кіруе вяшчаннем расейскага тэлеканала ТНТ у Беларусі.

**Белсат**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газэту, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПА ЧЫЁЙ ВІНЕ АД ЛІСАБОНА ДА УЛАДЗІВАСТОКА ПА ПРАМОЙ НЕ ДАЛЯЦЕЦЬ

**Пад ціскам новых абставін, не дачакаўшыся крыку пеўня, штатным прапагандыстам давялося разварочвацца на 180 градусаў. Але тварам у бруд ніхто з іх не ўдарыў.**




Чарговая інфармацыя, вартая ўвагі чытачоў НЧ пра «нашу Расію», з нашай жа Расіі і прыйшла.

Цытую па сайце «Эхо Москвы»: «У красавіку 2019 года ў ходзе паездкі па рэгіёнах быў атручаны пісьменнік Дзмітрый Быкаў, яму цудам удалося пазбегнуць смерці. The Insider і Bellingcat здолелі высветліць, што ў гэтым замаху на забойства ўдзельнічалі тыя ж супрацоўнікі ФСБ з НДІ-2 і Другой службы, якія атруцілі Аляксея Навальнага і Уладзіміра Кара-Мурзу. Замаху таксама папярэднічала доўгае сачэнне (ФСБ лётала ўслед за Быкавым на працягу года) і, як і ў выпадку з Навальным, пасля атручвання рабіліся лжывыя заявы аб "нетранспартабельнасці" пацыента. Гасцініца, дзе, мяркуючы па ўсім, атруцілі Быкава, можа быць звязаная і з атручваннем Навальнага».

Пералічваць падрабязнасці не буду. У два клікі яны даступныя цікаўным. Чаго не скажаш пра змест «чорнага дыпламата», які фігураваў на відэакадрах падчас сустрэчы адзінага палітыка (АП) з расійскім калегам у Сочы.

…Але закрытасць інфармацыі толькі распальвае цікавасць да яе. У прыватнасці, хацелася б ведаць, наколькі падрабязна расійскія рыцары плашча і кінжала дзеляцца са сваімі беларускімі калегамі вопытам па ужыванні «Навічка». Мяркуючы па рэгулярных публікацыях «The Insider» і «Bellingcat», вопыт назапашаны каласальны.

**Ад якой спадчыны яны адракліся**

«Пётр сказаў Яму ў адказ: "Калі нават усе зняверацца ў Табе, я ніколі не зняверуся". Ісус сказаў яму: "Сапраўды кажу табе, што ў гэтую ноч, перш чым заспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне. Пётр адказаў Яму: "Хоць бы давялося памерці з Табою, не адракуся ад Цябе"» (Евангелле паводле Мацвея 26:33-35).

У гэтых радкоў Евангелля ёсць шанец не толькі прэтэндаваць на ролю эпіграфа да нашай «Азбукі паліталогіі», яны гарманічна глядзеліся б на першай старонцы акадэмічнага выдання, прысвечанага гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Паспрабуем разабрацца, ад якой спадчыны яны адмовіліся.

«Беларусь — гэта еўрапейская дзяржава». Такім адкрыццём у жніўні 2009 года адзіны палітык (АП) падзяліўся са сваім калегам падчас візіту ў Літву. Спіс жа патрабаванняў, які высоўваецца еўрапейцамі, «ніякай алергіі, ніякага адпрэчвання» не выклікаў. Адзінае, што патрабавалася для яго прыняцця «без шкоды нашай унутранай палітыцы», — «трохі часу».

Далей — больш. У Пасланні–2012 гаворка ўжо ішла пра «інтэграцыю інтэграцый», мэтай якой называлася «стварэнне агульнай эканамічнай прасторы ад Лісабона да Уладзівастока».

На жаль, не склалася, і не па прычыне дзяржавы, размешчанай у геаграфічным цэнтры Еўропы, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці. Нашы партнёры аказаліся «апошнімі гнюсамі». Яны не вытрымалі выпрабавання «інтэграцыяй інтэграцый». У выніку ад Лісабона да Уладзівастока па прамой без загагуліны не даляцець.

Пад ціскам новых абставін, не дачакаўшыся крыку пеўня, штатным прапагандыстам давялося разварочвацца на 180 градусаў. Я нават пачаў за іх непакоіцца, але дарэмна. Тварам у бруд ніхто не ўдарыў, што і пацвярджае цытата, запазычаная з артыкула навуковага супрацоўніка Інстытута філасофіі НАН РБ Аляксея Дзерманта: «Сёння нам, разумеючы нязменную драпежніцкую прыроду заходняй палітыкі, ні ў якім разе нельга дазволіць заспець сябе знянацку, заспакоіць прыгожымі словамі, распаліць супярэчнасці, каб мы не здолелі супольна з саюзнікамі дзейнічаць разам і зладжана ў любой сітуацыі. Гэта не клікушаства, гэта звычайны рэалізм, неабходны для таго, каб ніякай вайны на нашай зямлі больш ніколі не было».

Дзякуй, Аляксей. Галоўнае, каб не было вайны.

**Са жніўня быццам прарвала**

Выкарыстанне курсіву пры напісанні асабістага займенніка множнага ліку трэцяй асобы — яны — у падзагалоўку папярэдняй часткі артыкула, відаць, варта патлумачыць. Хай прабачаць мне тыя, каму па штаце належыць сачыць за чысцінёй маіх аўтарскіх намераў, але, калі я выкарыстаў курсіў, дык тым самым паставіў пад сумнеў факт адзінства беларускага народа. Мауляў, ёсць "яны" і "яны". Першыя аддаюць перавагу аб'яднанню з Расіяй, другія — інтэграцыі з Еўропай. Другіх, у адрозненне ад першых, страшылкі Дзерманта не палохаюць.

Але якія суадносіны першых з другімі? Адказ на гэтае пытанне нельга ўзяць са столі або высмактаць з пальца. На жаль, з іншымі крыніцамі сацыялагічных ведаў у Беларусі не вельмі добра. Тыя, хто па штаце за грошы падаткаплацельшчыкаў абавязаны такія веды грамадству прадастаўляць, маўчаць, падобна народу ў фінальнай сцэне пушкінскага «Барыса Гадунова».

**КОЛЬКАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ, ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМ «ДЫЯЛОГАВАЯ ПЛЯЦОЎКА» Ў ГАЗЕЦЕ «СБ. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ»**

| 2016 | 2017 | 2018 | 2019 | 2020 | 2021 |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 7 | 10 | 18 | 223 | 209* |

* З 1 студзеня па 11 чэрвеня

…Статыстыка, вынятая з сайта самай салiднай газеты краіны, гэта пацвярджае.

Нескладана зразумець прычыну «ўраджайнасці» 2020 года. Для менш здагадлівых дадаткова растлумачу, што за студзень-ліпень пошукавік знайшоў толькі 5 артыкулаў, якія змяшчаюць фразеалагізм, які нас зацікавіў, а пачынаючы са жніўня — быццам штосьці прарвала ў нябеснай канцылярыі...

**Чым хутчэй, тым лепш**

Але сама па сабе колькасць дыялогавых пляцовак не пераходзіць у якасць дыялогу, зрэшты, як павелічэнне царкоўных прыходаў не спараджае росту колькасці ўцаркоўленых, г. зн. людзей, што не проста прынялі хрышчэнне, але якія рэгулярна ўдзельнічаюць у царкоўным жыцці, якія імкнуцца жыць пахрысціянску і падтрымліваюць сацыяльныя адносіны ў межах сваёй царкоўнай абшчыны. Такіх інфармацыйнааналітычнай цэнтр у 2017 годзе налічыў 8,5% пры 95% рэспандэнтаў, якія адзначылі сваю прыналежнасць да розных рэлігійных канфесій.

Нармальныя краіны будуюцца на кампрамісах. Дыялог — гэта інструмент, з дапамогай якога пошук кампрамісаў ажыццяўляецца…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПАЛОННЫ

# ДРАМА ПРАТАСЕВІЧА ЯК МАДЭЛЬ ПАВОДЗІНАЎ ДЛЯ ІНШЫХ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

**Перавод Рамана Пратасевіча і Соф'і Сапегі пад хатні арышт сьведчыць пра тое, што ўлады працягваюць шматхадовую гульню, выкарыстоўваючы апазыцыйнага журналіста як важкую фігуру.**

Улады, пэўна, вырашылі, што калі ўжо затрыманьне Рамана Пратасевіча абярнулася такімі маштабнымі ахвярамі (закрыцьцё паветранай прасторы, сэктаральныя санкцыі ЭЗ), то трэба выкарыстаць палоннага напоўніцу. Тым больш што згода Рамана «супрацоўнічаць са сьледзтвам» адкрыла перад кіраўніцтвам дзяржавы пэўныя магчымасьці. Гульня адбываецца шматхадовая, арыентаваная на розных адрасатаў. Адначасова вырашаецца некалькі задач.

Найперш, вядома, гэта дыскрэдытацыя апазыцыі. «Выкрывальніцкія» заявы Пратасевіча павінны пацьвердзіць увесь той нэгатыў у адрас палітычных апанэнтаў, які шырокай плыньню льецца з тэлеканалаў БТ амаль цэлы год. Плюс дыскрэдытацыя краін Захаду (нібыта прыведзеныя Пратасевічам «доказы» кіраваньня пратэстамі заходніх спэцслужбаў). Гэта ўсё праца на ўнутраную аўдыторыю.

Каб «прадаць» скандал з самалётам Расеі, беларускія ўлады пачалі рабіць акцэнт на тым, што Раман нібыта ваяваў на Данбасе. Гэта прыцягнула актыўную ўвагу расейскіх мэдыя. У кантэксьце вырашэньня гэтай задачы зьявілася гульня (як высьветлілася пазьней, няўдалая) з самаабвешчанай ЛНР.

Перавод пад хатні арышт расейскай грамадзянкі Соф'і Сапегі, — гэта таксама жэст у бок Масквы, дэманстрацыя «гуманізму» беларускага рэжыму.

Праява «гуманізму» адрасаваная і заходняй аўдыторыі. Там шмат пісалі, што Пратасевіча катуюць. І на спачуваньні да ахвяры дыктатарскага рэжыму (а не толькі праз парушэньне бясьпекі авіяпалётаў) грунтавалася мэдыйная кампанія супраць рэжыму Лукашэнкі. Зьяўленьне Рамана на публіцы здаровым, бадзёрым і з усьмешкай на твары мусіла абвергнуць усе гэтыя жарсьці. У гэтым кантэксьце варта разглядаць і перавод Рамана пад хатні арышт.

Таксама гэтым зьяўленьнем Пратасевіча на публіцы афіцыйны Менск імкнуўся калі не прадухіліць, то зьмякчыць эканамічныя санкцыі. Маўляў, заходнія палітыкі ня маюць рацыі, яны робяць няправільныя высновы. Аднак тут атрымалася ня вельмі ўдала. Бо ніхто ня можа растлумачыць беларускаму кіраўніцтву, што для заходняй грамадзкасьці такія прыёмы абсалютна непрымальныя. Прымушаць палітвязьня казаць патрэбныя турэмнікам словы і выразы — гэта з пазыцыі эўрапейскіх каштоўнасьцяў ёсьць грубае парушэньне правоў чалавека, недапушчальны спосаб маральнага, псыхалягічнага ціску. Таму эфэкт ад зьяўлення Пратасевіча на прэсавай канфэрэнцыі 14 чэрвеня аказаўся адваротным. Хацелі, як лепш, а атрымалася, як заўсёды. Такім спосабам санкцыі прадухіліць не ўдалося.

Яшчэ адзін аспэкт гэтай чарговай беларускай драмы завязаны на псыхалёгіі аднаго чалавека. Фэномэн маральна зламанага ворага, які раскаяўся, шмат што тлумачыць у беларускай палітыцы. Цягам усяго прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі шматлікім палітвязьням настойліва прапаноўвалі пісаць прашэньне аб памілаваньні. Для кіраўніка дзяржавы гэта было прынцыпова важна. І цяпер «тэрарыст» аказаўся зусім ня страшным. Ворага, які плача перад тэлекамэрай, просіць літасьці і ласкі ад «Аляксандра Рыгоравіча» — гэта той палітычны дывідэнд, які перакрывае ўсе нэгатыўныя наступствы скандалу з самалётам. Маральна зламаны праціўнік стаў бальзамам на траўмаваную душу, псыхалягічнай сатысфакцыяй за перажытыя дні стрэсу летам і восеньню мінулага году.

Пасьля гэтага можна праявіць і «гуманізм». Сёньня ў Беларусі звыш 500 палітзьняволеных. Аднак «гуманізм» праяўлены толькі адносна Юрыя Васкрасенскага і Рамана Пратасевіча. (Соф'я Сапега ў гэтым шэрагу апынулася хутчэй за кампанію). Васкрасенскі і Пратасевіч ня проста пакаяліся публічна на камэру, але фактычна перайшлі на другі бок барыкад. Гэта мадэль паводзінаў для ўсіх палітвязьняў, якія хочуць датэрмінова выйсьці на свабоду.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

КЛАСІК

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ: ТРЭБА ЖЫЦЬ І ЗМАГАЦЦА

**Гэтыя гутаркі Юрася Залоскі з Васілём Быкавым адбыліся ў траўні–чэрвені 1995 года. Яны былі найперш абумоўленыя часам, які перажывала Беларусь: рэферэндум аб мове, інтэграцыі з Расіяй і змене нацыянальнай сімволікі. Але гэтыя гутаркі, прысвечаныя лёсу Беларусі ды верагоднасці выжывання беларускай нацыі і культуры, і сёння найактуальныя, — і яскрава сведчаць аб тым, што думкі і словы вялікіх людзей не спазняюцца і не знікаюць, бо існуюць і ў сваім часе, і па-над ім…**

***— Вы як пісьменнік даволі хутка набылі папулярнасць і мелі магчымасць бачыць, як ставіцца да пісьменнікаў за мяжой і ў нас. Ці не было ў Вас шкадавання, што Вы — пісьменнік вось гэтага народа?***

— Юрась, я скажу, што для мяне даўно ўжо з'яўляецца праблемай само існаванне «народа»... Асабліва цяпер я пачынаю думаць, што пакуль мы шчыравалі «дзеля народа», кляліся імем народа — у нас яго ўкралі.

Засталася нейкая нацыянальная эліта, а нацыянальнай, народнай асновы — не стала. Не стала народа. Я гэта гавару баючыся, як нейкае святатацтва, як у ранейшыя часы гаварылі пра д'ябла і Бога. Але сапраўды, калі мы гаворым «народ, беларускі народ», — то гэта ўвогуле абстракцыя, гэта — па інерцыі. Калі ж канкрэтней паспрабаваць сабе ўявіць: а дзе ён, гэты народ, дзе яго часткі ці хоць бы нейкая значная частка? Раней гэта было проста: ісnavала сялянства, яно было моўнай, культурнай, генетычнай, этнаграфічнай і г.д. асновай нацыі. Цяпер сялянства няма. Дзе цяпер сялянства? Дажываючыя пенсіянеры-калгаснікі ў вёсках ці элітныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы (аграномы, заатэхнікі і інш.) — хіба яны могуць уважацца за аснову нацыі? Я вельмі ў гэтым сумняваюся... Дык вось калі культурная эліта развівала культуру — для «беларускага народа», — знік сам народ. Горад, урбанізаваная насельніцтва гарадоў, — баюся, гэта ўжо не беларускі народ; яно з Беларуссю нічога агульнага не мае, апроч, хіба што, тэрыторыі пражывання. Менск — горад «беларускі» толькі таму, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а ў астатнім — якая яго адрознасць, скажам, ад Смаленска, Цвяры, Масквы? Чым ён ад іх адрозніваецца?..

***— Бадай аб'явамі ў метро...***

— Вот іменна — аб'явамі ў метро... І раптам з'явіліся бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня», якія тут жа былі скасаваны — «па волі народа»...

Ідэя Адраджэння — ідэя, канечне, правільная, высакародная, ва ўсіх адносінах цудоўная, — трапіла не на тую глебу. Вот у чым справа. Можа быць, яна трапіла зарана...

***— ...Што такое Лукашэнка? Мясцовы, так бы мовіць, феномен, ці — з'ява больш маштабная, сістэмная?***

— Гэта не мясцовы феномен. Можна нават сказаць, што ў гэтым сэнсе Лукашэнка мудры як змей. Ён прадбачыў і прадбачыць тое, пра што дэмакраты яшчэ толькі пачынаюць здагадвацца. Найперш, натуральна, ён думае пра ўладу. А ўладу ён можа захаваць толькі ў тым выпадку, калі тут не адбудзецца сацыяльны выбух. Таму што змесці яго ўладу зможа толькі сацыяльны выбух вялізнай сілы. Гэта можа адбыцца ва ўмовах, калі народ будзе даведзены да крайняй мяжы выжывання, калі ўжо не будзе чаго есці. Таму, каб гэтага не здарылася, яму як мага хутчэй трэба інтэгравацца ў вялікую імперыю і тым забяспечыць гарантыю, алібі на будучае. Бо што б тады ні здарылася, Лукашэнка не будзе вінаваты. Калі нават і здарыцца самае горшае, то ўвесь гнеў будзе скіраваны на Маскву, Масква будзе вінавата, бо яна будзе кіраваць. Заўсёды ж можна сказаць, што яна не дала нам нафты, грошай і да т.п. Ён, такім чынам, будзе ні пры чым....

***— Вашая парада ў такіх неспрыяльных варунках маладым патрыётам, хто не жадае прымаць «новай» палітыкі і, расчараваны лёсам, не ведае, што рабіць далей?***

— Суняць сваё расчараванне і працаваць. Працаваць дзеля падвышэння нацыянальнай самасвядомасці. Толькі гэта.

У нас жа гіне культура. Як заўсёды ў такіх умовах, узрастае роля дыяспары... Культурныя пласты напрацоўваюцца на працягу доўгага часу, высілкамі многіх пакаленняў, а руйнуюцца — імгненна, нашмат хутчэй. Патрыёты мовы, дзеячы ТБМ выступалі за тое, каб адраджаць мову павольна, каб — «не перагнуць палку», каб — «да канца стагоддзя». І гэта ўвогуле правільна. Але вынішчацца яна будзе за лічаныя гады, калі не месяцы. Таму што адразу абвальна пяройдуць кіраўніцтва, эліта, горад ужо перайшоў, засталося яшчэ аваладаць расейскай мовай вёсцы, дзе яшчэ нейкія рудыменты беларускасці захаваліся... І ўсё...

Таму не трэба роспачы. Трэба закансерваваць тое, што ў нас ёсць, што напрацавала нацыя ў галіне культуры і літаратуры, мастацтве, і ў элітных слаях будзе адбывацца, прынамсі, я так думаю, марудная рэанімацыя, падтрымка нацыянальнага жыцця. Як гэта было ў мінулым. Хоць у мінулым усё-такі лепшыя былі ўмовы, таму што тады ашчаднікам мовы і нацыянальнай культуры — не свядомасці, а культуры — было сялянства, якое іх выпрацоўвала і кансервавала. Яно па сацыяльных прычынах не магло далучыцца да чагосьці іншага, да іншай мовы і культуры. А цяпер тэлебачанне далучыць каго хочаш, хоць самога д'ябла. І таму будзе даволі складана. Але, тым не менш, я ўсё-такі думаю, што нацыянальная культура і жыццё будуць прадаўжацца, хоць у некалькі аслабленым стане.

Я, канечне, песіміст. Але я песіміст у адносінах да пакалення майго веку, у адносінах да сябе асабіста; я ведаю, што мне нацыянальнага росквіту не дачакацца, я не пабачу, гэта будзе недзе пасля, але гэта будзе. Будзе шчасце, і будзе дзяржаўнасць, і будзе ўсё, таму што ў той форме, у якой мы існавалі як народ і якая нам наканавана цяперашнім кіраўніцтвам, — у такой форме шчасця не будзе. Будзе зноў няшчасце.

І людзі зноў будуць шукаць, зноў будуць кідацца ў пэўным накірунку. А пэўны накірунак для нас — мы не першапраходцы ў гэтым сэнсе — паказваюць нашыя суседзі, паказвае Еўропа, і мы ў рэшце рэшт (скарочана) пойдзем туды. Канечне, пры ўмове, што ядзерны Апакаліпсіс не спыніць усё гэта. А сёння гэта зноў становіцца вельмі магчыма...

*(скарочана)*

**Юрась Залоска**
**"Новы Час"**

ПАЛІТВЯЗЕНЬ

# «ВЛАСТЬ НАСТОЛЬКО СЛАБА, ЧТО ОБЪЯВИЛА ВОЙНУ СВОЕМУ НАРОДУ»

**Уже год Виктор Бабарико находится в СИЗО КГБ и не признает вину ни в коррупции, ни в «отмывании» денег. Процесс по его делу близится к завершению. Кажется, ни у кого нет иллюзий, что наказание будет суровым. Но сам Виктор Дмитриевич, как и год назад, стоит на своем: перемены в Беларуси неизбежны. Он рассказал, почему не остановился, даже когда забрали его сына, что думает о встрече с Лукашенко в СИЗО и готов ли к тому, что попадет в колонию.**

…Почти в каждом интервью и на встречах во время поездок по стране у Виктора Дмитриевича спрашивали, понимает ли он, что его могут посадить, как это было с кандидатами в президенты в 2006 и 2010 годах. «Почему я должен быть готов сесть за несовершенное преступление?» — отвечал он тогда. Сегодня экс-банкир признает, что невозможно быть готовым к такой неадекватной жестокости власти.

— Конечно, мы обсуждали в семье и с командой возможные последствия моего решения, рассматривали сценарии с арестами. Однако никто не предполагал, что власть настолько слаба и испугается своего народа, что будет объявлена война против граждан Беларуси. Ведь любая жестокость — проявление страха и слабости. Сильный не бывает жестоким. В то же время требование изменений в стране, проявленное с такой силой и сохраняющееся столь длительное время, вызывают гордость за нас всех и уверенность в будущем. Поэтому, ответив себе на вопрос «зачем?», можно пережить любое «как».

Как и другие политзаключенные, Виктор Бабарико говорит, что самое сложное в условиях практически полной информационной изоляции не отчаяться и верить в тех, кто остался на воле.

— В любом начинании важна не только скорость достижения результата, но и необратимость начатых процессов. Запуск «термоядерной» реакции желания изменить свою жизнь к лучшему у многих, оставшихся «снаружи», — очень необходимый момент для тех, кто находится «внутри». У власти ситуация обратная. Они находятся в «спирали отчаяния». Чем дольше сохраняется движение и желание людей к переменам, тем сильнее страх и необходимость репрессий. А значит, придет понимание неизбежности отвечать за содеянное. Чтобы остановить раскручивание этой спирали, нужно объяснить всем: изменения не приведут к мщению. Право на ошибку и покаяние, а значит, прощение и милосердие, есть для каждого.

По словам Виктора Бабарико, письма ему доходят редко. Но это важная поддержка, подчеркивает он. Виктор Дмитриевич вспоминает, что три дамы смогли прорвать «информационную блокаду», отправив 200 (!) писем и открыток. Особенно, говорит, приятно получать сообщения от молодых — «в такие моменты чувствуешь себя молодым и задорным».

Экс-банкиру предъявлено обвинение в получении взяток и «отмывании» средств, полученных преступным путем. В отличие от других фигурантов «дела Белгазпромбанка», Бабарико последовательно и настойчиво заявляет, что невиновен. Он не пошел на сотрудничество со следствием, несмотря на то, что за решеткой весь этот год остается его сын Эдуард. Почему?

— Очень непростое испытание понимать, что твой сын — заложник. Практически все давние друзья, близкие люди, как знающие меня давно, так и ставшие мне такими в последнее время, тоже находятся за решеткой либо прошли через задержания и ограничения свободы. Пусть они в разной степени знакомы со мной, но практически никто из них не сказал обо мне плохого слова, не пошел на обман, чтобы облегчить свою участь. Они верят, что я не преступник. Признать вину в преступлении, которое я не совершал, — обмануть всех этих людей. Я прожил жизнь и прямо смотрел людям в глаза. Не знаю, сколько и где мне осталось провести оставшуюся часть моей жизни, но я не хочу прятать глаза за свое предательство. В особенности перед своими детьми…

Ожидание перемен сильно затянулось. Но Виктор Дмитриевич по-прежнему считает, что попытки изменить ситуацию в стране были ненапрасными и что перемены неизбежны.

— Наша страна упорно шла по пути изоляции от внешнего цивилизованного мира и формировала вокруг себя сплошных врагов. В такой ситуации мы неизбежно должны были присоединиться к чьему-либо персональному или региональному узкому «мирку». Не будь событий 2020 года, мы бы уже окончательно потеряли шанс быть самостоятельной страной, и произошло бы это незамеченным для всего мира, так как судьба Беларуси мало кого интересовала. А сейчас нам сопереживает весь цивилизованный мир. У нас сохраняется шанс на присоединение к глобальному сообществу. Нужно сопереживать трагическим персональным потерям, но для нации и страны эти люди оставили надежду на лучшее будущее. Мы должны быть благодарны за их жертвенность. К сожалению, так уж устроены любые сообщества: для общего счастья кто-то должен быть «ранним евангелистом» и брать на себя больше ответственности.

В последнее время все чаще можно услышать, что перемены возможны только в результате жестких санкций. По сути, на свои силы белорусы уже не рассчитывают, растет поток эмиграции. Виктор Дмитриевич сравнивает нашу ситуацию с борьбой организма с вирусом.

— Мы больны диктатурой. Внешние санкции — очень действенное лекарство. Но необходимо выработать внутренний иммунитет и запустить механизм выздоровления. Уезжающие за границу ослабляют нас. Их можно понять. Но нужно задуматься над одной вещью. Они уезжают от «очень плохого» к просто «плохому», ведь вынужденная эмиграция именно такова, то есть минимизируют потери. Оставаясь же и пытаясь что-то изменить, у нас появляется шанс на выбор между «очень плохим» и «хорошим». Поэтому источником перемен можем быть только мы сами, то есть способность нашего «организма» сопротивляться этой заразе. И я верю, что «лекарство» и свежий воздух сильно ускоряют выздоровление….

**Читайте нас тут:**
**ВКонтакте — https://vk.com/tutby: Instagram — http://instagram.com/tutbylive Viber — https://invite.viber.com/**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.06.2021 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.